# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 17 (843) ГОД XVII БЕЛАСТОК 23 КРАСАВІКА 1972 г. ЦАНА 60 гр.

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## НІНА ВОЙНА

Ніна Война настаўнічае ўжо 18 год. Спачатку вучыла дзяцей у вёсцы Мора на Гайнаўшчыне, а ад 1960 года навучае беларускай мове ў пачатковай школе ў Орлі (Бельскі павет). Дадатковыя кваліфікацыі здабыла на завочным аддзяленні беларускай філалогіі Настаўніцкай студыі ў Беластоку. Дзякуючы здабытым ведам, яна паспяхова спраўляецца з навучаннем беларускай мовы ў V—VIII класах. У школе прыступіла яна зараз да арганізавання кабінета беларускай мовы, у якім будзе знаходзіцца бібліятэчка беларускіх кніг, кніжныя выдавецтвы ГП БГКТ, беларускі тыднёвік «Ніва» і замежныя беларускія часопісы. Зараз беларускую мову ў арлянскай школе вывучае каля 150 дзяцей. Усе яны, дзякуючы шматлікім намаганням вопытнай нас-



таўніцы і яе ўмеламу падыходу да навучання гэтага прадмета, ахвотна вучацца роднай мове і добра валодаюць ёю. Настаўніца Ніна Война супольна з настаўніцамі Тацянай Шайкоўскай і Нінай Гаўзэ (таксама выпускнікі беларускай філалогіі), якія навучаюць беларускай мове ў малодшых класах, робіць намаганні прывіць любоў да літаратурнай беларускай мовы. Даволі часта з гэтым намерам арганізуюць яны ў сябе ў школе мастацкую праграму на роднай мове. Зараз рыхтуюцца да ўрачыстага святкавання 90-ай гадавіны нараджэння вялікіх беларускіх песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Раней выступалі яны на сцэне з мантажом пад агульным загалоўкам «Жыццё сялян калісь і сёння».

Ніна Война многа працуе грамадска. З'яўляецца яна сакратаром пярвічнай партыйнай арганізацыі (ПОП) у школе. Настаўнікі-члены партыі многа месца прысвячалі на сваіх партыйных сходах перш за ўсё справам ідэалагічнага выхавання старэйшай школьнай і пазашкольнай моладзі, новым, больш эфектыўным метадам навучання, лепшай падрыхтоўцы вучняў да ўступных экзаменаў у сярэднія школы, пазашкольнаму выхаванню старэйшай моладзі і г.д. Варта адзначыць, што школьная моладзь з Орлі вельмі актыўна ўключаецца ў працу грамадскім чынам. Грамадскім чынам пабудавалі яны для сябе ля школы коўзанку, а таксама лавачкі навокал ледзянога поля.

У прыватным жыцці Ніна Война выхоўвае трое дзяцей. Мае многа розных абавязкаў, але з усімі імі паспяхова спраўляецца.

*Тэкст і фота:*
*Я. Цялушэцкі*

*НА ДАРОГАХ*



*У Баброўнікі.* *Фота А. Карпюка*

ДА VII З'ЕЗДУ БГКТ

## САКОЛЬСКАЯ канферэнцыя

Стала ўжо традыцыяй, што пленарныя пасяджэнні сакольскага аддзела БГКТ і справаздачна-выбарныя канферэнцыі адбываюцца ў памяшканні павятовага камітэта ПАРП. Таксама і 26 сакавіка ў канферэнцыйнай зале КП сабралася больш трыццаці (на 40 выбраных) дэлегатаў з гурткоў БГКТ і запрошаныя госці.

Пасля ўступнага слова старшыні праўлення аддзела Сцяпана Лукашука дэлегаты аднагалосна выбралі старшынёй канферэнцыі Аляксандра Рафаловіча — намесніка старшыні праўлення сакольскага аддзела. Справаздачны даклад чытаў член прэзідыума аддзела Віталі Чыжэўскі.

У дакладзе гаварылася аб працы паасобных гурткоў (а ёсць іх 25 з 365 членамі), аб мастацкіх калектывах, падкрэслівалася вялікая роля драмгуртка з Сухініч, які кожны год падрыхтоўвае новыя п'есы і ўдзельнічае ў аглядах тэатральных калектываў. «У сваёй працы Беларускае таварыства, — гаварылася ў дакладзе, — удзяляе вялікую ўвагу добраму сужыццю беларускага і польскага насельніцтва. Праўленне сакольскага аддзела ўкірункоўвае гурткі БГКТ так, каб культурная іх праца аб'ядноўвала людзей розных нацыянальнасцяў, каб не было ў нашых асяроддзях нацыяналістычных тэндэнцый, каб нашыя гурткі садзейнічалі адзінству і згуртаванасці асяроддзя. У гэтай галіне ёсць дасягненні. Народныя фестыны БГКТ наша таварыства арганізоўвае супольна з палякамі. Так было ў Талькоўшчыне, у Новым Востраве і Гурцы. У гуртках БГКТ, у мастацкіх калектывах з беларускім рэпертуарам прымае ўдзел моладзь польскай нацыянальнасці».

Далей гаварылася ў дакладзе, што не менш увагі прысвячае сакольскі аддзел і развіццю дружалюбных пачуццяў да нашага суседа — Савецкага Саюза, у тым ліку і да Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. «Аддзел наш, — сцвярджаў дакладчык, — заўсёды адзначае гадавіну Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, гадавіну ўтварэння БССР і Дзень перамогі над фашызмам. З гэтай нагоды арганізоўвае ён выстаўкі і фотавыстаўкі «З жыцця СССР» і «З жыцця БССР», высвятляе савецкія фільмы і арганізоўвае вечарыны і даклады».

У дакладзе сцвярджаецца таксама, што на Сакольшчыне замала выступае эстрада ГП «Лявоніха», замала высвятляецца савецкіх фільмаў і замала аўтарскіх сустрэч з літаратарамі з аб'яднання «Белавежа». Даклад адлюстраваў дасягненні і недахопы працы БГКТ на Сакольшчыне і адначасова паказваў тыя справы, на якія новавыбранае праўленне павінна звярнуць больш увагі.

Пасля справаздачных дакладаў прэзідыума і рэвізійнай камісіі пачалася дыскусія. Першымі выступілі дэлегаты крынкаўскага гуртка БГКТ Віталіс Сідараў і Усевалад Анісімовіч. Расказвалі яны аб тым, што іх 38-асабовы гурток намагаецца арганізаваць харавы калектыў. Ёсць там шмат людзей, якія хочуць спяваць, хочуць вярнуць Крынкам даўнейшую славу цэнтра мастацкай самадзейнасці. У 1948 годзе існаваў там вялікі рэгіянальны хор, які на ваяводскім аглядзе заняў першае месца, а на цэнтральным — трэцяе. Дэлегаты з Крынак звярталіся з просьбаю да прадстаўнікоў павятовых улад, да ПРН і БГКТ, каб дапамаглі Крынкам у гэтай справе, а перш за ўсё, каб супольна знайшлі добрага дырыжора, сродкі на музычныя інструменты і народныя ўборы.

Дэлегаты з Гаркавіч Мікалай Яцэвіч і Іван Кісель расказалі аб сваіх цяжкасцях у арганізаванні мастацкай самадзейнасці: у вёсцы няма аніводнай дзяўчыны. А замужнія жанчыны неахвотна ўдзельнічаюць. Другая справа, якую яны парушылі, гэта святкаванне 90-ай гадавіны з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гурток БГКТ з гэтай нагоды рыхтуе разам з сельскагаспадарчым гуртком акадэмію, якая адбудзецца ў красавіку. Трэцяя справа датычыла навучання беларускай мовы ў іх вёсцы. Настаўніца не падрыхтавана да навучання гэтага прадмета, і гэтым яна знеахвочвае дзяцей да вывучання роднай мовы.

Мікалай Максімец з Паўночнага Вострава прысвяціў сваё выступленне развіццю сельскагаспадарчай культуры і ролі ў гэтым асабістага прыкладу членаў БГКТ. Дэлегат з Паўднёвага Вострава Мікалай Хомчык закрануў справы, звязаныя з замежным турызмам.

Іван Сідар з Саколкі прыпомніў прысутным дзейнасць Сялянска-работніцкай грамады і Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, прыпомніў тыя часы, калі беларускае насельніцтва ў даваеннай Польшчы не карысталася роўнымі грамадзянскімі правамі. Затым запэўніў удзельнікаў канферэнцыі, што

Працяг на стар. 4

## НАРАЎСКАЯ ВЕТЭРЫНАРНАЯ СЛУЖБА

Мінуў ужо той час, калі ветэрынарны лекар быў рэдкім чалавекам у вёсцы, калі жывёлу лячылі самавучкі і знахары. У раёне Нараўкі раней меў папулярнасць нейкі гора-лекар без адукацыі з Шымак. Ён «спраўляў» каровы, займаўся кастрацыяй парасят і бараноў, якая неаднойчы канчалася заражэннем і смерцю жывёлы. Цяпер той шымкаўскі чалавек у раёне Нараўкі не мае папулярнасці і ніхто яго парад не патрабуе. У Нараўцы зараз ёсць ветэрынарная лячэбніца, у якой працуюць высокаадукаваныя лекары — Міраслаў Бароўскі і Сяргей Раманчук. Людзі пераканаліся, што іх праца, іх дзейнасць вельмі паспяховая ў галіне лячэння і прафілактыкі і таму прывозяць і прыводзяць жывёлу з вельмі далёкіх вёсак у лячэбніцу. Сяляне цалкам адмовіліся ад усіх тых, якія раней займаліся кастрацыяй. Сяляне не любяць, калі жывёла мучыцца, калі такая аперацыя робіцца «нефахова» і доўга.

Падчас нашага візіту ў лячэбніцы лекары займаліся таксама кастрацыяй. Міхась Бірыцкі з Міклашэва прывёз 10 парсючкоў да кастрацыі, якая была выканана хутка і па ўсіх правілах ветэрынарнай навукі.

Кастрацыя — адна з вельмі важных галін працы нараўскіх лекараў. Яна ліквідуе нізкаякасных быкоў, жарабцоў, бараноў і кныроў. Напрыклад, у мінулым годзе ў сваім раёне Міраслаў Бароўскі і Сяргей Раманчук выкастравалі 210 быкоў і 80 кныроў. На гэты год запланавана выкастраваць 250 штук бычкоў, 30 жарабцоў, 70 кныроў і 140

Працяг на стар. 4

*НА ДАРОГАХ*



*На вуліцы Каперніка ў Бельску.*
*Фота Цаф — Р. Сянько*

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### «АПАЛОН — 16»

16 красавіка г.г. ракета «Сатурн» вынесла чарговы амерыканскі экіпаж, на гэты раз у «Апалоне—16», на Месяц. На месячным караблі адправіліся трое касманаўтаў. Двое з іх як дзевяты і дзесяты чалавек паставяць нагу на сярэбранай планеце.

Варта дадаць, што Савецкі Саюз высылае на Месяц касмічныя караблі без людзей, якія прывозяць на Зямлю патрэбныя матэрыялы для даследаванняў.

### МІРНАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ МЕСЯЦА

У Жэневе працуе 11 сесія юрыдычнага падкамітэта Камітэта ААН па мірнаму выкарыстанню касмічнай прасторы. У рабоце сесіі прымаюць удзел дэлегацыі 28 краін, у тым ліку Савецкага Саюза, Польшчы, Балгарыі, Чэхаславакіі, Румыніі, Манголіі, Бельгіі і ЗША.

Дэлегацыя СССР унесла на разгляд падкамітэта савецкі праект дагавору аб Месяцы. Гэты дакумент заклікае, у прыватнасці, да забароны размяшчэння на Месяцы ядзернай зброі і іншай зброі масавага знішчэння, а таксама ўсякай дзейнасці, накіраванай на выкарыстанне Месяца ў ваенных мэтах.

### ПЕРСПЕКТЫВЫ АЭРАФЛОТА

У 1972 годзе Аэрафлот будзе вымушаны перавезці 87 мільёнаў пасажыраў, больш чым два мільёны тон грузаў і пошты. З паветра авіяхімічным спосабам плануецца ў Савецкім Саюзе апрацаваць 89 мільёнаў гектараў пасеваў.

Значнае месца ў перавозках зойме новы рэактыўны лайнер — «ТУ—154», які прыйдзе на змену «ТУ—104», «ІЛ—18» і «АН—10». На міжкантынентальных трасах пасажыраў пачне перавозіць мадэрнізаваны самалёт «ІЛ—62», які ў стане пераадольваць цяпер без пасадкі больш чым 10.000 кіламетраў.

Новую эру ў развіцці грамадзянскай авіяцыі адкрывае звышгукавы лайнер «ТУ—144». Цяпер ён праходзіць выпрабаванні і ў гэтай пяцігодцы выйдзе на трасы Аэрафлоту. Пачнецца асваенне грузавога самалёта «ІЛ—76». Савецкія канструктары пачалі стварэнне аэробуса, разлічанага на 350 чалавек.

### АБЯЗДОЛЕНЫЯ

За апошнія 7 гадоў 770 тысяч жыхароў Нью-Йорка папоўнілі рады абяздоленых. Паводле афіцыйных даных, 48 працэнтаў пуэртарыканцаў і 32 працэнты неграў, што пражываюць у гэтым горадзе, вымушаны жыць за мізэрныя падачкі па так званых «праграмах дапамогі».

### НАФТА

У Народнай Рэспубліцы Конга адкрыта падводнае месцанараджэнне нафты, запасы якога ацэньваюцца спецыялістамі ў 200—300 мільёнаў тон. Яно размешчана ўздоўж берагавой лініі НРК за 15 кіламетраў ад берага.

Гэта другое значнае падводнае месцанараджэнне нафты ў Конга. Першае пачало даваць нафту ўжо ў канцы мінулага года.

### СЕНАТ АМЕРЫКАНСКАГА КАНГРЭСА...

...адобрыў рэзалюцыю, якая прадугледжвае абмежаванні паўнамоцтваў прэзідэнта ў галіне вядзення вайны за межамі Злучаных Штатаў. Зараз рэзалюцыя перададзена на разгляд палаты прадстаўнікоў кангрэса. (АК)

## БССР

### СЫРАКОМЛЯ І БЕЛАРУСЬ

Беларускі паэт і філолаг Кастусь Цвірка паведамляе на старонках сакавіцкага нумара журнала «Нёман», што сярод матэрыялаў Цэнтральнага Дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва Літоўскай ССР удалося яму выявіць невядомыя дагэтуль запіскі «вясковага лірніка», польскага паэта эпохі рамантызму Уладзіслава Сыракомлі (Людвік Кандратовіч). Гэта ёсць дзённік (дарыюш) яго падарожжа з вёскі Барэйкоўшчына, дзе ён жыў, у Варшаву — праз Мінск, Слуцк і Брэст Літоўскі. Усяго свайго падарожжа «раменным дышлам» паэт не апісаў. У выяўленым рукапісе знаходзяцца яго ўражанні з некалькіх вёсак і мястэчак Беларусі, а ў тым ліку апісаны там горад Смаргонь.

### МОЗЫР І МАЗУРЫ

М о з ы р — вядомы старажытны беларускі горад на берагах Прыпяці, м а з у р ы — назва этнічнай групы, засяляючай да сёння адзін з цэнтральна-усходніх раёнаў Польшчы. Што тады ў аднаго і ў другога — апрача фанетычнага падабенства — ёсць агульнага? Аказваецца, што гэтае гукавае падабенства зусім тут невыпадковае. Доктар геаграфічных навук В. Жучкевіч даказвае («Нёман», № 3(72), што менавіта назва горада М о з ы р выводзіцца ад назвы м а з у р ы.

### З УЛІКАМ НА ДЗЯЦЕЙ

У СССР быў праведзены «Усесаюзны тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі». З гэтай нагоды вялікі вечар дружбы адбыўся ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Прынялі ўдзел дэлегацыі дзяцей з братніх рэспублік. Адначасова беларускія пісьменнікі наладзілі — таксама ўсесаюзнае — абмеркаванне пытання: «Праблемы інтэрнацыянальнага выхавання ў дзіцячай літаратуры».

### НОВАЯ КНІЖКА А. КАРПЮКА

У кніжных магазінах Беларусі паявілася новая кніжка вядомага беларускага празаіка, нашага земляка Аляксея К а р п ю к а: «Скарбы і здабыткі маёй Гродзеншчыны». Кніжку тыражом у 10 тысяч экземпляраў выпусціла ў свет выдавецтва «Беларусь».

### СТО ГОД ЖЫЦЦЯ

Рэдкі юбілей — 100 год жыцця — адзначала днямі жыхарка горада Жодзіна, Настасія Фамінічна Купрыянава. Жыццё не шкадавала ёй самых горкіх выпрабаванняў. Выхавала яна 5 сыноў, сярод якіх аж 4 аддалі сваё жыццё ў барацьбе з фашысцкімі захопнікамі: Міхась у партызанах, Мікола і Сцяпан — недзе пад Варшавай, Пятро — у Латвіі. Пятру Купрыянаву пасля смерці прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

100-гадовая бабулька адчувае сябе добра.

### СЯЎБА ЗАКОНЧАНА

«Звязда» паведамляе, што саўгас «Любанскі» Любанскага раёна закончыў ужо сяўбу ярыны. Цяпер уся яго тэхніка (звыш 80 трактарных агрэгатаў) накіравана на пасадку бульбы. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО

11 красавіка г.г. адбылося пасяджэнне Палітбюро Цэнтральнага Камітэта ПАРП, на якім быў разгледжан праект Карты правоў і абавязкаў настаўнікаў ПНР. Мэтай гэтага закона з'яўляецца прызнанне высокага грамадскага ранга настаўніцкай прафесіі. Праект Карты прадбачвае ўвядзенне аднолькавага праўнага статуса для настаўнікаў, выхавальцаў і навукова-дыдактычных работнікаў вышэйшых школ, а таксама паляпшэнне іх сацыяльна-бытавых умоў. У наступным пункце Палітбюро разглядала праект пастановы Рады Міністраў у справе змен у сістэме продажу вугалю для людзей. Ад 1 мая г.г. вугаль зможа купіць кожны і ў неабмежаваных колькасцях.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАРТЫЙНА-УРАДАВАЙ КАМІСІІ

12 красавіка г.г. адбылося пленарнае пасяджэнне партыйна-ўрадавай камісіі, якая была створана год таму назад, каб выпрацаваць праграму па ўдасканальванню функцыянавання гаспадаркі. Камісія працавала ў 11-ці праблемных групах. Прымала ў іх удзел каля 200 навуковых работнікаў, экспертаў, спецыялістаў і г.д. У пасяджэнні камісіі прымалі ўдзел І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч. Пасяджэнне вёў старшыня камісіі — член Палітбюро, сакратар ЦК ПАРП Ян Шыдляк. Ён выступіў таксама з рэфератам на тэму асноўных прадпасылак удасканальвання сістэмы кіравання, планавання і распараджэння нацыянальнай гаспадаркай. З другім рэфератам аб праблемах увядзення гэтых змен знаёміў член Палітбюро ЦК ПАРП, намеснік прэм'ера М. Ягельскі. Пасля адбылася дыскусія.

### ВІЗІТ Э. ГЕРКА

У днях 14—15 красавіка г.г. І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк правёў сустрэчы з рабочым калектывам «Стылёну» ў Гажове, з экзекутывай ВК ПАРП у Зялёнай Гуры, з калектывам прадпрыемства «Застаць», а таксама з членамі ПГР у Чэрвенску і сельскагаспадарчых гурткоў у вёсцы Баядла і ў Тшэбехове. І сакратар ЦК цікавіўся перш за ўсё ўмовамі працы людзей.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ ДЗЯРЖАВЫ

14 красавіка г.г. адбылося ў Бельведэры пасяджэнне Рады Дзяржавы, на якім старшыня Рады Дзяржавы прафесар доктар Генрык Яблонскі знаёміў з асноўнымі напрамкамі працы Рады Дзяржавы. На пасяджэнні створаны таксама сталыя камісіі Рады Дзяржавы.

### СУСТРЭЧА Э. ГЕРКА І П. ЯРАШЭВІЧА

13 красавіка г.г. І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч правялі сустрэчу з 23-асабовай дэлегацыяй работнікаў тэкстыльнай прамысловасці. І сакратар ЦК знаёміў гасцей з перспектывамі далейшага паляпшэння ўмоў працы і быту рабочых лёгкай прамысловасці.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ МІНІСТРАЎ

12 красавіка г.г. адбылося пасяджэнне Рады Міністраў, на якім былі абмеркаваны праекты трох пастаноў адносна Карты настаўніка, упарадкавання спраў, звязаных з пабудовай аднасямейных дамоў і спраў продажу дамоў і памяшканняў. (ЯЦ)

## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ВК ПАРТЫІ

12 красавіка адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта партыі. Галоўнай тэмай пасяджэння былі задачы і напрамкі развіцця жыллёвага будаўніцтва ў нашым ваяводстве. У працы пленума прымалі ўдзел намеснік кіраўніка эканамічнага аддзела ЦК тав. Ул. Цымбала, віцэ-міністр будаўніцтва і будаўнічых матэрыялаў тав. Ч. Пшэвознік, віцэ-міністр тэрэновай гаспадаркі і аховы асяроддзя тав. З. Дрозд, прадстаўнік арганізацыйнага аддзела ЦК тав. В. Главацкі і віцэ-прэзас Цэнтральнага саюза спулдзельняў жыллёвага будаўніцтва тав. Я. Май.

Вёў пасяджэнне І сакратар ВК З. Куроўскі.

З уступным словам выступіў сакратар ВК партыі тав. С. Рубчэўскі. З дакладам экзекутывы ВК удзельнікі пленума пазнаёміліся раней. Таму ва ўступным слове С. Рубчэўскі звярнуў увагу на галоўныя справы гэтай вялікай праблемы, вялікай і цяжкай, калі параўнаць яе з патрэбамі і нашымі магчымасцямі.

Паводле праекту плана на 1971—75 гады, жыллёвае будаўніцтва ў нашым ваяводстве ўзрасце на 19,7%, у тым ліку будаўніцтва гарадскога тыпу — на 14,5%. Дзякуючы дадатковым стараниям, Камісія планавання пры Радзе Міністраў згадзілася павялічыць гэты план у жыллёвых спулдзельнях на 50 тыс. кв. метраў плошчы. Але, нягледзячы на такі выразны ўзрост будаўніцтва, праблема жыллёвых памяшканняў не можа быць вырашана за адну пяцігодку. Цяпер з прыдзелаў рад нарадовых чакаюць памяшкання 13 тыс. сем'яў, а ў жыллёвых спулдзельнях — 28 тыс., лічачы толькі членаў і кандыдатаў. А колькасць чакаючых кватэры штогод узрастае. Трэба ўзяць яшчэ пад увагу і факт, што цяпер уваходзяць у самастойнае жыццё людзі, якія нарадзіліся ў гады найвышэйшага натуральнага прыросту і стварылі цяпер так званы дэмаграфічны скок (выж). Яны ідуць у прамысловасць, у гарады, і гэта добра, бо прамысловасці патрэбны новыя, кваліфікаваныя кадры. Галоўнай задачай для ўсіх будаўнікоў з'яўляецца максімальнае выкарыстанне ўсіх рэзерваў у цэлым працэсе будаўніцтва, каб у рамах сродкаў, якія ў нас будуць, даць як найбольш жыллёвых памяшканняў. Трэба навучыцца будаваць хутчэй, менш і танней без абніжэння стандарту памяшканняў.

Асобная справа, якая вядзе да той самай мэты — індывідуальнае будаўніцтва. Цяпер і для яго створаны ўмовы, хоць цяжкасцяў яшчэ і так вельмі многа.

У час дыскусіі на пленуме гаварылася аб спосабах прыспешыць будаўніцтва, аб становішчы ў будаўніцтве ў розных мясцовасцях, аб справах аднасямейнага будаўніцтва ў горадзе і на вёсцы.

Найважнейшая задача для нас сёння — як найхутчэй і найлепш выканаць план на 1971—75 гады ва ўсіх галінах будаўнічага фронту. Бо будаўніцтва — гэта не толькі сцены, гэта адначасова і вада, і газ, і абаграванне, і хімія — гэта цэлы шэраг галін прамысловасці, цэлы шэраг цесна звязаных паміж сабой спраў і фактараў. (ЯЧ)




NIEDZIELA 23. IV.

7.45 Program dnia. 7.50 TV Kurs Rolniczy: „Przed rozpoczęciem budowy". 8.25 „Przypominamy, radzimy". 8.35 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 TV Klub Śmiałych". 10.15 Sprawozdawczy magazyn sportowy. 12.00 Koncert Symfoniczny WOSRPiTV w Katowicach pod dyr. R. Schumachera. 12.45 Dziennik. 13.00 „W kręgu mistrzów sztuki" — „Zwierciadło natury" 13.30 „Przemiany". 14.00 Dla dzieci: J. Wilkowski — „Cena uśmiechu" („Przygody skrzata Dzięcielinka"). 14.45 „W obiektywie". 15.15 XIII Olimpiada Wiedzy o Polsce i Świecie Współczesnym (finał). 16.20 Z Tadeuszem Kotarbińskim rozmawia Aleksander Małachowski. 16.55 „Wszystko za wszystko". 18.35 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Arsen Lupin" — film franc. 21.00 PKF. 21.10 „Melodie Wielkiego Ekranu" (W 60 minut dookoła świata). 22.10 Magazyn sportowy.

PONIEDZIAŁEK 24. IV.

15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 18.00 „Spacerkiem po kinach". 18.30 Film. 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: F. Dürrenmatt — „Romulus Wielki". 21.30 „Sylwetki X Muzy" — Studio Opracowań Filmów. 21.55 Recital fortepianowy Jerzego Godziszewskiego. 22.15 Dziennik. 22.30 Kronika Mistrzostw Europy w zapasach.

WTOREK 25. IV.

8.35 „Tagebuch — dziennik dr Hansa Franka" — film TVP. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Mazowsze wczoraj i dziś". 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — G. B. Shaw „Pigmalion" 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Unowocześnianie pomieszczeń inwentarskich". 15.20 i 22.45 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Praca dla kobiet" („Na rynku pracy). 17.10 „Oferty". 17.30 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Tagebuch — dziennik dr Hansa Franka" — film TVP. 21.30 „Błazen" — program baletowy czechosł. 22.05 Dziennik. 22.20 Kronika Mistrzostw Europy w zapasach.

ŚRODA 26. IV.

9.35 „Sprawa jasnowidza Hanussena" — film czechosł. cz. II. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Na wsi i w mieście". 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Prąd elektryczny w gazach". 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Szkło". 13.40 „Wybieramy zawód". 15.20 i 23.25 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.45 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej Polska — Hiszpania (eliminacje olimpijskie). W przerwie ok. 17.30 PKF. 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.50 „Sukces". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik 20.00 „Sprawa jasnowidza Hanussena" — film czechosł. cz. II. 21.20 „Świat i Polska". 21.50 „Artyści, których podziwiamy". 22.45 Dziennik. 23.00 Wiadomości sportowe. Kronika Mistrzostw Europy w zapasach.

CZWARTEK 27. IV.

8.15 Matematyka w szkole: „Aktywne utrwalanie materiału nauczania" cz. II. 9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — „Publicystyka XIX wieku". 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Historia książki". 15.20 i 22.50 Politechnika TV I roku. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 Magazyn ITP. 18.00 „Gdyby o jeden procent". 18.25 TV Kurier Olsztyński. 18.45 „Sposób na rozłąkę" („Podróże w znane") — wycieczka II. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik 20.00 „Przypominamy, radzimy". 20.05 „Sprawa Lizy Murnau" — film fab. NRD. 21.20 „Zbliżenia" — rep. 21.50 „Express" — mag. aktualności. 22.10 Dziennik. 22.25 Wiadomości sportowe. Kronika Mistrzostw Europy w zapasach.

PIĄTEK 28. IV.

8.00 TV Kurs Rolniczy: „Zoohigiena pomieszczeń inwentarskich". 8.40 „Sprawa Lizy Murnau" — film fab. NRD. 11.20 „Pojedynek" — film ang. („Nicholas Nickleby"). 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Gospodarze terenu". 12.45 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Silnik spalinowy". 15.20 i 23.10 Palitechnika TV I roku. Rysunek techniczny. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.30 „Nie tylko dla pań". 17.50 Magazyn Medyczny. 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 Recital piosenkarski Haliny Kunickiej. 19.05 „Sport, turystyka, wypoczynek". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Pojedynek" — film ang. („Nicholas Nickleby"). 20.30 „Kraj". 21.10 Teatr TV: „Mój przyjaciel Duży M" wg powieści A. Fournier „Mój przyjaciel Meaulnes". 22.30 Dziennik. Kronika Mistrzostw Europy w zapasach.

SOBOTA 29. IV.

9.55 „Arsen Lupin" — film franc. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Pustynie i stepy Mongolii". 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 „Bieg po zdrowie". 16.15 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Wesoło w ZOO" — rep. 17.40 Program rozrywkowy. 18.00 Reportaż. 18.30 „Godzina Orfeusza" — mag. aktualności muzycznych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Z najlepszymi życzeniami". 21.25 Dziennik. Wiadomości sportowe. 21.50 „Arsen Lupin" — film franc. 22.45 Sprawozdanie z międzypaństw. meczu piłki nożnej Anglia — NRF.




**Piątek, 21 kwietnia**

7.35 Nowiny. 8.15 Film fab. 10.00 Film dokument. 10.30 Koncert symfoniczny. 11.25 Nowiny. 14.40 Program dnia. 14.45 Panorama nowin. 15.00 Akademia. Transmisja z Pałacu Zjazdów. 18.10 Film dokument. 19.00 Czas. 19.30 Film fab.

**Sobota, 22 kwietnia**

8.50 Film fab. 10.30 Filmy animowane. 12.00 Film fab. 14.20 Szkatułka muzyczna. 14.30 Panorama międzynarodowa. 14.55 Hokej. Mistrzostwa Świata. ZSRR — Szwecja. 17.10 Film fab. 18.45 Czas. 19.15 Hokej. Czechosłowacja — Finlandia II i III tercja. 21.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Mińsk) — „Ararat". II część.

**Niedziela, 23 kwietnia**

8.30 Kiosk muzyczny. 11.45 Film animowany dla dzieci. 14.15 Uniwersytet ludowy. 15.00 Koszykówka. ZSRR — USA. II część. 16.10 Klub filmowy. 17.10 Film fab. 18.40 Koncert. 19.00 Czas 19.30 W eterze „Młodość".

«ПЕСНЯРЫ» З МІНСКА

# Песняры народнага

Сяджу ва ўтульнай, прыгожай кватэры знаёмых у Мінску, куды запрасілі мяне, разам з іншымі гасцямі, на невялічкі прыём. Гаспадары хаты і іх госці ў задуме, уважліва слухаюць пласцінку, якую я прывезла ў падарунак. Гэта беларускія народныя песні ў выкананні Міхася Забэйды-Суміцкага, выдадзеныя нашым таварыствам. Стары дзедка, бацька гаспадыні, аж вочы заплюшчыў ад асалоды.

І раптам са свайго крэсла рашуча зрываецца 17-гадовая дачка гаспадароў. Яна падыходзіць да адаптара, знімае пласцінку Забэйды і ставіць на яе месца іншую. Маленькая канстэрнацыя — і праз момант твары прысутных праясняюцца. Ізноў гучаць беларускія народныя песні, аднак у іншым выкананні — спяваюць «Песняры» з Мінска. Цяпер замерла ад захаплення дзяўчына. Каб не госці, яна напэўна з прыемнасцю пайшла б прытупваць у такт модным рытмам народных мелодый.

Думаючы цяпер аб гэтым, я стаўлю сабе пытанне: ці змагла б яна зразумець у той момант, што пазбавіла сваіх бацькоў сапраўднай асалоды? Мяркую, што такая думка ёй не прыйшла нават у галаву. Моладзь упартая і любіць глядзець на свет сваімі вачыма. Заўсёды больш прыцягвае яе нешта новае, сучаснае — мадэрн. Так забываюцца традыцыі. А моладзь жа — гэта будучыня...

Таму думаю, што «Песняры» робяць добрую справу, бо ў тым, што моладзь ахвотна слухае народныя мелодыі, — вялікая заслуга ансамбля. Патрапіў ён спалучыць умела народную музыку з сучаснымі рытмамі, сплавіць усё гэта ў адно, і атрымаў нязвыклы эфект. Эфект навочны. Ужо праз год працы ансамбля быў ён высока ацэнены — становіцца лаўрэатам IV Усесаюзнага конкурсу артыстаў эстрады, у якім прымала ўдзел больш 500 выканаўцаў. Надзвычай цёпла быў сустрэты ён і на мінулагоднім міжнародным фестывалі песні ў Сопаце. Выступаў там ансамбль ужо як прадстаўнік савецкай фірмы «Мелодыя», якая паспела запісаць на грампласцінкі нямала песень у яго выкананні. Аб «Песнярах» загаварылі і ў нас.

Нялёгкая была, аднак, справа — пачынаць, а былі ж яны на Беларусі, бадай, першымі. У той час, калі слава польскіх ансамбляў накшталт „No To Co" неслася ўжо далёка за межы краіны, «Песняры» яшчэ знаходзіліся ў стадыі пошукаў.

Пачалося ўсё няцэлыя тры гады таму назад. Чацвёра хлапцоў — Уладзімір Мулявін і Уладзіслаў Місевіч з Мінска, Леанід Тышко з Брэста і Валеры Яшкін з Гомеля сустрэліся на службе ў арміі. Спачатку, іграючы ў ваенным аркестры, яны сустракаліся толькі на рэпетыцыях і канцэртах. Але аднойчы выступілі квартэтам. І гэта быў пачатак. Служба набліжалася да канца, але хлопцы вырашылі не развітвацца, а пасля дэмабілізацыі выступаць разам, у адным калектыве. Першай іх песняй, з якой выступілі, была беларуская народная песня «Чаму ж мне не пець...».

«Песняры» хутка знайшлі свой стыль. Аднак пачатковыя іх пошукі, спробы дастасаваць вядомыя песні, якія сталі ўжо амаль класічнымі, да больш сучасных рытмаў — не ўдаліся. Відаць, не туды ішла дарога.

І тады яны вырашылі звярнуцца да музыкі самабытнай і непаўторнай — да беларускай народнай песні, навеянай самой прыродай і шчырымі, чыстымі пачуццямі чалавека. І не памыліліся. Ад гэтага часу беларускія народныя песні становяцца галоўнай крыніцай іх творчых планаў і здзяйсненняў. Было гэта нешта зусім новае, свежае ў беларускай вакалістыцы. Такія вядомыя беларускія народныя песні, як «Ой, рана на Йвана», «Ой, рэчанька, рэчанька», «Зорка Венера», «А ў полі вярба» і іншыя, набылі ў выкананні ансамбля новую эмацыянальную афарбоўку.

Ансамбль разрастаецца да васьмі чалавек, ён шукае ўсё новых выяўленчых сродкаў. Для большага аўтэнтызму у эстрадны электрагітарны ансамбль уводзіцца падгледжанае на сялянскіх вяселлях трыо — баян, скрыпка і бубен, уводзіцца таксама ліра, дудачка. У сваім выкананні, аднак, «Песняры» імкнуцца перадаць не толькі багатую музычную спадчыну беларускага народа, але і рытм часу, пульс сённяшняга жыцця, атмасферу эпохі. Іх уборы нават — гэта таксама ў нейкай ступені спалучэнне народнага, традыцыйнага з мадэрнам.

Кіраўнік ансамбля — Уладзімір Мулявін. Усе песні, якія спявае калектыў — яго апрацоўкі. Ён жа таксама з'яўляецца і аўтарам некаторых песень, напісаных спецыяльна для ансамбля, як, напрыклад, «Белая Русь ты мая», «Александрына». Па духу яны таксама народныя і прасякнуты глыбокім патрыятызмам.

Мне ўдалося бачыць на сцэне і слухаць «Песняроў» у Мінску. Не ўдалося аднак пагаварыць з імі, атрымаць хоць некалькі слоў для нашай газеты. Былі яны няўлоўныя. На адзін толькі дзень прыехалі з гастроляў у родны горад, каб выступіць на вельмі важнай урачыстасці. Адразу ж пасля канцэрта яны спакавалі ўсе свае рэчы і выехалі на аэрадром. Ляцелі на гастролі ў наступны горад Савецкага Саюза.

Але я ўсё ж маю ціхую надзею, што калі-небудзь нашаму журналісту яшчэ ўдасца пачуць ад гэтых выканаўцаў беларускіх народных песень шмат цікавага аб іх жыцці і працы. А, можа, нават і атрымаць ад іх здымак з спецыяльнай дэдыкацыяй для «Нівы».

Мая надзея абгрунтаваная. Працуем жа мы для адной справы.

*Ада Чэчуга*

---

КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

ШТО МОЖНА ЗРАБІЦЬ З МЯСАМ, ЯКОЕ МЫ ЗВАРЫЛІ Ў БУЛЁНЕ?

### У ВОСТРЫМ СОУСЕ

Мяса парэзаць на кавалкі, палажыць у плоскую каструльку, пасыпаць соллю, перцам, папрыкай, заліць густой кіслай смятанай, змешанай з гарчыцай (муштардай), пасыпаць зверху молатымі сухарамі і ўставіць на 15 мінут у вельмі гарачую духоўку. Падаваць мяса з бульбай і салатам.

### У СОУСЕ З ХРЭНУ

Белую засмажку з мукі і тлушчу развесці булёнам. Дадаць соль, крыху цукру і пару лыжак сцертага хрэну. У соус пакласці парэзанае на кавалкі мяса і на працягу 15 мінут трымаць яго на гарачай пліце. Мяса павінна быць прасякнута хрэнным соусам. Падаваць з бульбай.

### З ЯБЛЫКАМІ

Абабраныя яблыкі (антонаўкі або рэнеты) нарэзаць і тушыць у тлушчы. Дадаць некалькі разынак, соль, перац і пару лыжак смятанкі альбо не надта кіслай смятаны. У соус пакласці дробна нарэзанае мяса, дадаць соль і перац. Так трымаць на пліце мінут 20. Можна падаваць з бульбай, а яшчэ лепш з макаронам.

### ЗАПЯКАНКА

Мяса парэзаць на не надта тонкія кавалкі. 4 вялікія цыбуліны парэзаць на кружочкі і падсмажыць у тлушчы. Паловай мяса вылажыць дно змазанай тлушчам каструлькі, прыкрыць пластом цыбулі (цыбулі трэба ўзяць палову) і рэштай мяса. Да тае цыбулі, што засталася, дасыпаем лыжку мукі, разводзім гэта булёнам, уліваем крыху белага віна, дадаем соль, крыху цукру і кіпяцім. Гэтым соусам паліваем мяса зверху, пасыпаем сцертым на тарцы жоўтым сырам і ўстаўляем мінут на 10 у гарачую духоўку.

### З САЛАТАМ

Мяса парэзаць, вельмі дробна, дадаць парэзаную гародніну з булёну, пару вараных бульбін, 1 кіслы агурок, таксама дробна парэзаны, пару лыжак зялёнага гарошку з банкі, вымяшаць усё з маянэзам ці смятанай, змешанай з муштардай. Вылажыць на салатніцу, прыбраць чвэрткамі крутога яйка, палоскамі марынаванай чырвонай папрыкі і зялёнай пятрушкай ці лісткамі салаты.

### З ФРЫТКАМІ

Сырую абабраную бульбу парэзаць на тоненькія скрылёчкі, абсушыць яе і падсмажыць фрыткі. Пад канец смажэння дадаць дробна нарэзанае мяса і трымаць на слабым агні каля 20 мінут. Выняўшы з тлушчу, пасыпаць соллю, перцам і сцертым на тарцы жоўтым сырам. Падаваць з вострым салатам з гародніны.

*Гаспадыня*

---

ЯЎГЕН БЕРАЗНЯК

# „Я"-„ГОЛАС"

МАЁР ВІХР РАСКАЗВАЕ ПРА СЯБЕ І СВАЮ РАЗВЕДКУ

Грузавік з арыштаванымі павольна ехаў па плошчы. Аляксей прапанаваў вярнуцца ў горад. Штосьці тэрмінова зрабіць.

— Цяпер мы нічога не даб'ёмся, — сказала Валя. — Шукаць майго мужа ў паліцыі няма сэнсу. Сёння ў іх дзень аблаў. Нас і слухаць не стануць.

Паехалі да Бохенка.

У Кракаў Граза вярнуўся з кенкартай на імя Георгія Уладзімірава, з паліцэйскім лістком і іншымі неабходнымі дакументамі.

А сябра нашага, як і меркавала Валя, сапраўды затрымалі выпадкова, але абвінавацілі ва ўхіленні ад работы. Гэта таксама пахла Асвенцімам. Валя даведалася: кожную раніцу Міхала з іншымі арыштаванымі водзяць з турмы на ўскраіну Кракава да скалы Твардоўскага. Здрабняць каменне. У велізарнай каменяломні кожны дзень гінулі людзі. Пра ўцёкі не было чаго і думаць.

Але Валя не разгубілася. Знайшла неабходнага чалавека — падатлівага і ўплывовага фольксдойча. Той запатрабаваў дзесяць тысяч злотых.

Граза звязаўся са мною, паведаміў абстаноўку, папрасіў дапамогі. Блізнякоў, даведаўшыся, у якую бяду трапіў наш Міхал, прыйшоў з гатовым планам.

У агульных рысах план зводзіўся да налёту на станцыю Строне. Складанасць заключалася ў тым, што ў нас тады не было ўзрыўчаткі, да таго ж, я якраз ламаў сабе галаву над тым, дзе можна хутчэй раздабыць грошы на вызваленне Міхала. У любы дзень яго маглі адправіць у Асвенцім. Мог змяніцца наглядчык, з якім вяла перагаворы Валерыя.

А што калі налётам на Строне адразу забіць двух зайцаў?

Намеціўся састаў групы. Апроч Яўсея, у налёце ўдзельнічалі Міця — Цыган, Забаронек, Отчанашаў, Сямён Растопшын, лётчык Шыпін.

Падзеі, як дакладваў мне пазней Яўсей, разгортваліся такім чынам.

Калі сцямнела, група падышла да пасёлка Строне і залятла на самым ускрайку лесу.

Неўзабаве з разведкі з добрымі навінамі вярнуліся Сямён і Шыпін.

Як паказаў мясцовы солтыс (мы яму давяралі), на станцыі несла службу група ахоўных войск. Сярод ахоўнікаў былі інваліды, пажылыя і зусім хлапчукі, учарашнія гімназісты. Ахоўнікаў — чалавек сорак. Размяшчаліся яны ўсе ў старой казарме ля самай станцыі.

Вакол казармы і станцыі жывая агарожа з кустоў, дрэў.

Месяц, як на зло, свяціў ва ўсю. Толькі апоўначы групе Яўсея ўдалося прабрацца да чыгуначнага палатна.

Залеглі за насыпам.

Па знаку Яўсея першым цераз палатно вужам прапоўз Шыпін, следам за ім — Забаронек.

Вартавы ішоў прама на іх, ціха насвістваў вальс Штрауса.

Шыпін узнік перад ім раптоўна, як прывід. Той і спалохацца не паспеў, як апынуўся на зямлі з надзейным кляпам у роце. Шыпін накінуў шынель вартавога на плечы — і ў казарму.

Цьмяна ў два паверхі ўзвышаліся нары, набітыя немцамі. Ахоўнікі, іх было чалавек сорак, нічога не падазраючы, дружна храплі. Адзін было прыўзняў галаву. Спрасонку прыняў Шыпіна за свайго і тут жа зноў захроп. Ля праходу — два ручныя кулямёты, карабіны, аўтаматы. На падлозе боты, з нар звісае адзенне.

Шыпін ціха свіснуў. У казарме бясшумна, як цені, з'явіліся Яўсей Блізнякоў, Сямён Растопшын. Двое засталіся ў двары.

Блізнякоў і Растопшын прыкіпелі да кулямётаў. Шыпін — з гранатай. Казарму ўзялі без адзінага выстралу. Ахоўнікаў, ашаломленых, дрыжачых ад холаду, у адных споднікаx вывелі ў двор. Да палонных паставілі двух канваіраў. Словам, чыста ўсё зрабілі. Начальніка станцыі, дзяжурнага, касіра — усіх удалося ўзяць без шуму. За паўгадзіны вывелі са строю вадакачку, сістэму дыспетчарскага кіравання, разбілі рэйкі. Тут, як і было дамоўлена, падаспелі тры падводы з суседняга атрада Арміі Людовай. Падводы загрузілі трафеямі. Два ручныя кулямёты, дваццаць карабінаў, дзесяткі гранат — такім быў наш святочны падарунак сябрам па зброі.

Палонныя ў двары ўжо было падрыхтаваліся да смерці.

Яўсей абышоў калону, агледзеў, задаволена хмыкнуў:

— Да ручкі дайшоў Гітлер, інвалідаў ды смаркатых хлапчукоў набірае. — Загадаў усю распранутую каманду замкнуць у казарме.

Шыпін ад сябе дадаў:

— Не раю ўзнімаць шуму, казарма замініравана. Узарвем к чорту. Шлафен, шлафен, майне лібе. — Маўляў, дасыпайце, дарагія. І няхай вам сняцца прыемныя сны.

Выручка ў касе аказалася нядрэннай

# ТРЫБУНА чытачоў

## ТАМ ЗАМНОГА, А ТУТ БРАК

У 1964 годзе па нашай трасе (Гайнаўка—Агароднікі, Гайнаўка—Беласток цераз Трывежу) пайшоў першы раз аўтобус. Людзі вельмі радаваліся. Радасць гэтая трывала вельмі коратка, бо праз некалькі месяцаў аўтобусы вельмі перапоўніліся. Асобы, якія ездзілі трасай Гайнаўка—Беласток праз Навасады, пачалі ездзіць праз Трывежу; мала таго, месячныя білеты павыраблялі на гэтую трасу, бо траса гэтая ім вельмі спадабалася.

Цяпер з даездам з Новага Корніна да Гайнаўкі вялікія цяжкасці. Аўтобус, едучы рана з Агароднікаў (ён у новым Корніне ў 7 гадзін) мала калі забірае без месячных білетаў, а білета не можна ніяк дастаць, бо месцы ўсе заняты. Кожны другі дзень трэба ў школу ісці пешшу 10 км.

Ужо многа раз людзі з Новага Корніна пісалі ў Беласток, каб пусцілі яшчэ адзін дадатковы аўтобус, які б быў у Гайнаўцы перад восьмай гадзінай і ад'язджаў бы з Гайнаўкі ў 15 гадзін. Як дагэтуль, ніякага адказу з Беластока няма. Лепш было б, каб адзін аўтобус з трасы праз Навасады ездзіў праз Трывежу. Там іх замнога, а тут вельмі не хапае.

*Люба Сахарчук,*
*Новае Корніна, вучаніца Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, кл. I «а»*

## ПРАКЛЯТАЯ ДАРОГА

Ад дарогі Супрасль — Крынкі ідзе дарога ў вёску Азярок (Сакольскі павет). Гэту дарогу людзі праклялі і назвалі яе «праклятай дарогай». Гэтай «пякельнай» дарогі два кіламетры, яна ідзе лесам, і таму ГРН у Шудзялаве кажа, што рамантаваць яе павінна надлясніцтва (Саколка, з сядзібай у Копнай Гары).

Трэба падкрэсліць, што гэтага адрэзка дарогі ніхто не рамантаваў ад 1944 года, ад часу, калі ёю праходзілі савецкія войскі. Тады, менавіта, сапёры вымасцілі яе друкамі. І доўга людзі ездзілі па добрай дарозе. Але друкі ўжо даўно пагнілі, а дарога стала «пякельнай». Хто ёю ўрэшце зоймецца? А. С.




## ВЯСНА

Распусціла кудравыя косы
Маладзіца прыгожа вясна,
Землеробы збіраюцца ў поле,
Каб шчасліва зямлю заараць.
Янка ў полі авёс рассявае,
Галя есці для Янкі нясе,
Беларускую песню спявае:
Ты расці, златавусы авёс,
Ты расці, налівайся у зёрны,
Павышай ураджай на палях,
Каб сялянскія хаты багата
І вясёла збіралі цябе.
Янка дружна каней паганяе,
Барануючы поле сваё,
Галя далей ўсё песню спявае:
Ты расці, залацісты авёс.

*«Ярош»*

*Дарагое Сэрцайка!*

Пазнаёміліся мы з Янкам пару месяцаў таму назад. Ён жыве ў недалёкай ад нас асадзе. там працуе (ён механік). Я закончыла сельскагаспадарчы тэхнікум і таксама працую на вёсцы. Янка часта прыязджаў да мяне, не раз ездзілі мы ў кіно і т.п. Усё дагэтуль было добра, мы нават гаварылі паміж сабою, што пажэнімся, мо нават у гэтым годзе.

На велікодныя святы Янка запрасіў мяне дамоў да яго бацькоў. Падобна (як гаварыў Янка), бацькі хацелі пабачыць сваю нявестку. Толькі, Сэрцайка, гэта ўсё фатальна для мяне скончылася. Прывіталі мяне сардэчна, былі там і іншыя госці. Было многа закускі, але і... тарэлкі. Я выпіла адзін кілішак, другі... Потым было мне ўжо вельмі весела, толькі праз нейкі час зрабілася вельмі дрэнна. Мяне вывелі ў другі пакой, і там я ўжо праляжала (праспала) вечар і ноч. Калі ўстала рана, здавалася мне, што нічога не змянілася. Мяне накармілі і Янка маторам адвёз дахаты. Гаварыў, што прыедзе ў наступную нядзелю. Не прыехаў да сёння. Ды ніякай вестачкі аб сабе не перадаў. Патануў, як камень у ваду.




«Сэрцайка», я ніякая ж не п'яніца, проста не ўмела адмовіць, калі мяне прасілі. Не падумала, што так мне зашкодзіць. Што мне цяпер, Сэрцайка, рабіць, як вытлумачыцца перад Янкам і яго бацькамі? Мо напісаць пісьмо і вытлумачыць? А можа папрасіць, каб Янка прыехаў. Я ж кахаю Янку, ён мяне таксама. Парай.

*Ліля*

Спачуваю табе, Ліля, але параіць нічога талковага не магу. Бо падумай жа сама: прыехала ты першы раз у госці. Прынялі цябе як будучую нявестку. А ты так падвяла, падвяла сябе і Янку, ды нарабіла сораму бацькам Янкі перад гасцьмі. Я разумею і веру, што ты не п'яніца (як сама пішаш), але проста гэта выпадкова так здарылася. Не здзіўляйся, што Янка не паказваецца ў цябе, ён напэўна, таксама адчувае сябе, як і ты. Пачакай, не пішы, нічога не тлумач. Калі кахае, прыедзе. Ён жа даўжэй цябе ведае, і не падумаў аб табе, напэўна, так дрэнна, як яго бацькі маглі падумаць, якія бачылі цябе першы раз.

А чакаючы, перадумай, і хай гэты выпадак будзе табе навучкай на будучыню. Калі дзяўчына сябе шануе, тады і іншыя будуць яе шанаваць і цаніць.

*Сэрцайка*

## СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

24 лютага г.г. у зале «Дома Настаўніка» ў Гайнаўцы адбылася справаздачна-выбарная канферэнцыя ЗМВ-оўцаў беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя. На канферэнцыю прыбылі ўсе члены ЗМВ і настаўнікі. На пасяджэнні прысутнічаў таксама старшыня павятовага праўлення ЗМВ у Гайнаўцы Януш Казлоўскі. Канферэнцыю вяла Лена Шугала, Віталіс Янцэвіч і Юрка Чурак. Выступілі яны з дакладам, у якім прадставілі галоўныя заданні выбарчай праграмы, паказалі вялікія задачы, якія стаяць перад усімі членамі ЗМВ, падкрэслілі, што ЗМВ-оўцы нашага ліцэя вельмі актыўна ўключыліся ў акцыю «Шукаем 20 мільярдаў». Многа працы ўлажыў наш ліцэй у пабудову спартыўнай пляцоўкі, а таксама пры вясновых парадках пры школе. Пасля дакладаў адбыліся выбары новых улад ЗМВ. Вялі гэта члены школьнай арганізацыі. Потым адбылася дыскусія, у якой бралі ўдзел настаўнікі і вучні.

Канферэнцыя падсумавала дасягненні ў працы і накрэсліла новыя амбітныя заданні на наступныя гады супольнай працы беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы.

*Член ЗМВ Аня Білеўская*

## ГРАМАДСКІ АГЛЯД

26.III.г.г. у грамадскай бібліятэцы ў Грэдалях адбыўся грамадскі агляд конкурсу «Ідэі ППР вечна жывыя». У аглядзе прыняло ўдзел 10 асоб. У асноўным былі яны добра падрыхтаваны. Найлепшымі аказаліся Уладзімір Куптэль і Яўген Семянюк. Яны атрымалі па 45 ачкоў і прымуць удзел у павятовым аглядзе. У конкурснае журы ўваходзілі інструктар КП ПАРП Яўген Леўчук інструктар павятовай бібліятэкі Марыя Тафілюк, старшыня мясцовага сельгасгуртка Уладзімір Бурыла і сакратар ПОП Сцяпан Андраюк. На ўрачыстасці прысутнічалі арганізатары конкурсу ў сваіх вёсках: Ніна Сікора з Тапчыкал, Раіса Крот з Рыгораўцаў і Галіна Фіёнік з Кошак. У мастацкай частцы выступіў дзіцячы калектыў. Вельмі прыгожа спявалі салісткі калектыву Людміла Грайка і Раіса Кабрынец.

Пераможцы конкурсу і арганізатары атрымалі дробныя ўзнагароды. За арганізаванне мілага і культурнага мерапрыемства ад імя ўдзельнікаў конкурсу падзякаваў кіраўнічцы бібліятэкі вядомы маладзёжны дзеяч у Грэдалях Янка Ігнацюк.

П. О.

## ЗАПРАШАЕМ У НАШ ЛІЦЭЙ

Калі запытаеце нас, вучняў беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, што прывяло нас у муры нашай школы, заўсёды адкажам — любоў да роднай мовы і прага пазнаць бліжэй беларускую літаратуру і культуру. Мы ствараем адну дружную сям'ю. Супольна працуем над паглыбленнем ведаў, памагаем узаемна ў вучобе. Актыўна тут працуюць дзве маладзёжныя арганізацыі — ЗМВ і ЗГП. Вучні нашай школы бяруць актыўны ўдзел у грамадскіх працах, нядаўна ў нас былі вясеннія прыборкі. Школьны панадворак выглядае чысценька і прыгожа. Вучні нашай школы бяруць таксама актыўны ўдзел у конкурсе беларускай песні — 72: С. Кердэлевіч, А. Грыгорук, В. Харкевіч, А. Вдоўская. Каманда нашых валейбалістак з'яўляецца першаю на Беласточчыне, яны часта выязджаюць у розныя гарады Польшчы, праслаўляюць імя нашай школы.

Сябры з восьмых класаў! Не палохайцеся ўступных экзаменаў — веды пераломяць усё. Мы чакаем і будзем чакаць Вас. Запрашаем усіх!

*Беларускі ліцэй у Гайнаўцы, вучаніца кл. I «А»*
*Валя Карэтка*




*«Чытач з Бельшчыны».* Ахвотна прымаем у лік карэспандэнтаў і просім прабачэння, што не надрукуем першай інфармацыі: на гэту самую тэму атрымалі мы раней ліст іншага карэспандэнта.

*«Ваня»,* Бельск. Смяяцца з вонкавага выгляду людзей не варта, тым больш, што называеце іх прозвішчы, а самі хаваецеся за псеўданім.

«Алеся». Верш атрымалі, чакаў ён сваёй чаргі. У «Парнасік» вялікая чарга і чакаць два месяцы гэта не так многа. Але маеце рацыю — аўтар павінен ведаць, які лёс яго верша. Таму ад сёння «наша пошта» будзе змяшчаць такія паведамленні. А вось дасланыя вершы, якія закваліфікаваны ў «Парнасік»: Павел Налівайка — «Мая вёска», «Зіма», «Радзіма» (іншыя надрукуем на літстаронцы), Міхась Красоўскі — «Чаму»?, «Галады», «Зіма стала, хвала Богу», Мікола Краўчук — «Клін», Ваня Кірызюк — «Ой Ванька, Ваня», М. Панфілюк — «Манах», Васіль Петручук — «Балада», Анатоль Верамеюк — «Да маёй радзімы», Міхась Шаховіч — «Развітанне з ліцэем», Зіна Якімчук — «Там, дзе чую спеў зялёных лясоў», Сцёпа Палавянюк — «Ой нэ знаю, што то будэ», Аня з Плёсак — «Птушкі», Янка Здоўскі — «Маё іgranне» і «Размова», Ярош — «Мой заклік», М. Лук'янюк — «Край» і «Сенажаці», Яўгіння Кірылюк — «У школе», Надзя Кучынская — «Лірычнае каханне».

— дваццаць пяць тысяч злотых. Грошы ўнеслі, і на дзевяты дзень пасля арышту Міхал апынуўся на волі. Фольксдойч, дарэчы, яўна танна прадаў. Ды і ці мог ён ведаць, што за «бандыта Зайонца жывога ці мёртвага», гітлераўцы паабяцалі ва ўзнагароду дваццаць тысяч нямецкіх марак.

У ноч на сёмае лістапада група Яўсея зрабіла не менш дзёрзкі налёт на станцыю Воля-Радзішэўска. На гэты раз своечасова раздабылі тол (выручыў Тадэк), Міцю-Цыгану ўдалося першаму прабрацца да моста. Зняў вартавога. За ім прапоўз Сямён Растопшын. Удвух адзін з «быкоў» начынілі ўзрыўчаткай. Уклалі кілаграмаў сорак шэсць. Накармілі «быка» ўволю.

Потым на мітынгу, прысвечаным дваццаць сёмай гадавіне Кастрычніка, Яўсей дакладваў: чыгуначны мост узарван, пушчаны пад адхон воінскі эшалон, чатыры платформы з тэхнікай, тры вагоны з салдатамі, забіта і ранена больш як шэсцьдзесят гітлераўцаў. Рух на ўчастку станцыі Воля-Радзішэўска спынен сама меней на суткі. Такі наш салют Кастрычніку.

Отман між іншым сваё абяцанне выканаў. Ён, Отман, наогул стараўся. Ведаў за сабой грэх: у Беларусі яго падраздзяленне прымала ўдзел у карных экспедыцыях супраць партызан, і спрабаваў любой цаной выратаваць сабе жыццё, дабіцца даравання.

У выпадку з уладкаваннем Гразы Отман дзейнічаў вельмі асцярожна. Усё разлічыў так, каб ні ў каго ніякага падазрэння не магло ўзнікнуць.

Граза па новай «жалезнай» канкартцы, якая была зроблена Бохенкам, — Георгій Уладзіміраў, былы паліцай, які ўцёк ад бальшавікоў з Львова, поўнасцю задавальняў Отмана, начальніка 3-га аддзялення вайсковай контрразведкі (абвера) у Кшэшавіцэ.

Падбор кадраў якраз уваходзіў у абавязкі Отмана. Старанна праверыўшы дакументы Уладзімірава, ён даў справе звычайны ход, накіраваўшы яго да свайго шэфа.

Пацягнуліся трывожныя дні чакання. Граза не кідаў сваёй работы на будаўніцтве абаронных аб'ектаў. К таму часу ён нават атрымаў павышэнне — з простых рабочых перайшоў ва ўчотчыкі, што давала яму як разведчыку немалую перавагу.

Праз тыдзень Отман праз Комахава выклікаў Аляксея ў Кшэшавіцэ. У сваім службовым кабінеце павіншаваў Георгія Уладзімірава (шэф адобрыў выбар) з паступленнем на службу ў абвер.

Удвух вызначылі кола дзейнасці Уладзімірава, вельмі, дарэчы, зручнае для Гразы. У Кракаве і вакол яго выяўляць разведагентуру, перш за ўсё савецкую, сачыць за польскімі патрыятычнымі групамі, якія звязаны з нашай разведкай.

Неўзабаве Гразе ўдалося ўхапіцца за нітачку, якая прывяла нас у гітлераўскую разведшколу.

*(Працяг будзе)*



# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

Кляшчэлі

„Wiryneja" (radz.), 25—26. „Człowiek z M-3" (polski), 27—28. „Kapitan Korda" (czeski), 29—30.

Нараўка

„Próba terroru" (USA). „Zielone smugi" (radz.), 26—30

Нарва

„Kłopotliwy gość" (polski), „Tito Rinnelt porwany" (NRD), 26—30.

Чыжы

„Cudowna lampa Aladyna" (franc.), „Gott mit uns" (jugosł.), 26—30.

Дубічы Царкоўныя

„Nad jeziorem" (radz.), 26—30.

Арэшкава

„Jankes" (szwedzki). „Krwawa bajka" (jugosł.), 29—30.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

Боцькі

„Motodrama" (polski), „Pogoń za Adamem" (polski), 26—30.

Орля

„Cyrk bez granic" (rumuński), „Własne zdanie" (bułg.), 26—30.

Райск

„Pierścień księżnej Anny" (polski), „Unkas — ostatni Mohikanin" (rumuński), 26—30.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

Крынкі

„Morderca jest w domu" (węgierski), 25—26. „Szósty lipca" (radz.), 27—28. „Wydra pana Grahama" (angl.), 29—30.

Шудзялава

„Na torze czeka morderca" (czeski), „Romantyczni" (polski), 26—30.

Янаў

„Przystań" (polski), 26—30.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

Нурэц

„Kochana ciocia Sarika" (węgierski), 25—26. „Kłopoty z miłością" (NRD), 27—28. „Uzurpatorzy" (węgierski), 29—30.

Мельнік

„Kapitan Korda" (czeski), 25—26. „Wraki" (polski), 27—28. „Manewry Dniepr" (radz.), 29—30.

Мілейчыцы

„Jezioro starej sowy" (NRD), 25—26. „Cena odwagi" (bułg.), 27—28. „Lala" (włoski), 29—30.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

Сухаволя

„Morderca jest w domu" (węgierski). „Kto śpiewa nie grzeszy" (jugosł.), 26—30.

Новы Двор

„Mały" (polski), „Milion za Laurę" (polski), 26—30.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wrzystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 6916 T-3




# ТЭЛЕФОН

Ведаеце, даражэнькія, што пагаворкі сапраўды звязаны з жыццём і то яшчэ сучасным. У адной з вядомых пагаворак гаворыцца: «Багатаму і чэрці дзяцей калышуць». Вось нядаўна я ездзіла ў Міхалова, каб свайму старому галёшы клееныя купіць. Бачу, на кірмашы стаіць пры самым увaходзе воз і прыгожае радзіва. Побач мяшкі — адзін з гарохам, другі з пшаніцаю, місачка, вага і гаспадар год пад сорак. Падыходжу я блізка і пытаюся:

— Што ты, чалавеча, з такім вялізным радзівам ездзіш? Я сваёму ўнукаві купіла ручное па гэтай апошняй абніжцы і ён нават у аўтобусе яго ўключае, а цябе з гэтаю скрыняю ў аўтобус не возьмуць.

Ён нешта кіславата ўсміхнуўся і кажа:

— Чы ж ты, баба, ашалела? Я на продаж яго!

Пастаяла я з ім, а ён і расказвае, задаволены:

— Я, — кажа, — цяпер солтысам у Патоцы і нават тэлефон мне ў хату ўвялі. Я цяпер такі паважаны ў вёсцы, што куды. Настаўнік наш і знаёмых начальнікаў мае, а не змог увясці ў школе. Бетаў, стараўся і адказалі. Мне — я толькі з поля вярнуўся, а жонка кліча і хваліцца, што ўжо нават з начальнікам пошты гаварыла. Цяпер, кажа, радзіва непатрэбнае. Хочам у хаце паслухаць, адкладаем трубку тэлефонную на бок і знаеце, так прыгожа іграюць і выразна, што адчыняю акно і карыстаемся з суседам.

Тут мне і прыпомнілася пагаворка — «Багатаму чорт дзяцей калыша», бо ён па расказе багаты гаспадар.

На другі тыдзень сустрэліся мы ўжо як старыя знаёмыя.

— За чым добрым? — пытаюся.

— Каб гэта добра. Сваяк п'яны нагу выкруціў і прыехаў пазваніць у хуткую дапамогу.

— А ваш, — кажу, — тэлефон?

— Спачатку, — кажа, — быў добры, толькі часам музыка, а цяпер так іграюць, што ўжо жонка з начальнікам пошты не можа дагаварыцца. Бачыце, і ў Тапалянах падобнае, вось і мусіў 10 км гнаць кабылку.

Болей словам не адазваўся, але са злосці ці сораму бічыкам па кабылцы і нават да пабачэння не сказаў. Тут трэці раз мне ўспомнілася тая пагаворка, але ўжо на адварот, бо кожны з нас сам дзіця калыхаў бы каля цёплае печы, а чэрці няхай лепш папраўляць тэлефон.

*Суседка Міхаліна*

### НА ДАРОГАХ



— *Бацька ўжо тры гады вось так машыну пільнуе.*

### НА ДАРОГАХ



*Заглядзеўся.*




## Талаваломка



Якія геаметрычныя фігуры прадстаўлены на гэтым малюнку і колькі іх?

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*



### НА ЭКЗАМЕНЕ

Прафесар — да студэнта:

— Гэта ўжо чацвёртае пытанне, на якое вы не адказалі.

— Прашу даць мне трошкі часу, каб я мог сабрацца з думкамі.

— Калі ласка. Да наступнай сесіі вам хопіць часу?

### СВАРКА

Вараць сварку  
Ганна з Варкай —  
На ўсю вуліцу прыварку.  
Вараць шпарка,  
Вараць жарка,  
Аж язык смыліць, як скварка:  
— Каб не знаць табе радні,  
— Каб ты спала толькі ў дні,  
— Каб гарод павысах твой!  
— Каб каровін спаў надой!

. . . . . . .

Чым жа скончылася сварка?  
Прыгарэлі ў цётак скваркі!

*Ул. Лісіцын*

### НА ДАРОЗЕ

Хлопчык спыняе машыну:

— Дзядзька падвязіце да школы.

— Я еду ў іншы бок, — гаворыць шафёр

— Тым лепей.

### СУСЕДЗІ

— Чаму вы так не любіце свайго суседа?

— Ведаеце, ён прымацаваў да дзвярэй нейкі аўтамат. Каб зайсці да яго пагутарыць, неабходна спачатку ўкінуць дзесяць цэнтаў.

### У ВАГОНЕ

У вагоне для некурцоў адзін пасажыр звяртаецца да свайго суседа:

— Тут забаронена курыць.

— Я не куру.

— Вы трымаеце люльку ў зубах!

— Ну і што? У мяне на нагах чаравікі. Але гэта не значыць, што я зараз хаджу.

### ДЛЯ ПАЛЯЎНІЧЫХ

У адной дзяўчыны, якая апранула дзве чарнабуркі, спыталі:

— Навошта ты гэта зрабіла?

Дзяўчына адказала:

— Чым больш лісіц, тым больш паляўнічых.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Басі, Ліды і Ані з Бельска змяшчаем рускую песню*

## Позарастали стежки-дорожки

Позарастали стежки-дорожки,  
Где проходили милого ножки,  
Позарастали мохом, травою.  
Где мы гуляли, милый, с тобою.

Мы обнимались, слезно прощались,  
Помнить друг друга мы обещались.  
Нет у меня с той поры уж покою, —  
Верно гуляет милый с другою.

Если забудет, если разлюбит,  
Если другую мил приголубит, —  
Я отомстить ему поклянуся,  
В речке глубокой я утоплюся.

Птички-певуньи, правду скажите,  
Весть про милого вы принесите,  
Где ж милый скрылся, где пропадает?  
Бедное сердце плачет, страдает.

Позарастали стежки-дорожки,  
Где проходили милого ножки,  
Позарастали мохом, травою,  
Где мы гуляли, милый, с тобою.

### НА ПРАГУЛЦЫ

Сям'я адправілася на аўтамабільную прагулку за горад. Пятрусь уладкаваўся на заднім сядзенні і забаўляецца, як можа:

— Мама, глядзі, карова!  
— Мама, глядзі, жарабя!  
— Мама, глядзі, гускі.  
— Тата, тата, глядзі, бландзінка!

### НА ДАРОГАХ



*Сустрэча з міліцыянерам.*

### ШАТЛАНДЗЕЦ

Адзін шатландзец вырашыў, што за карыстанне радыёкропкай ён будзе плаціць толькі палавіну штомесячнай платы на той аснове, што ён глухі на адно вуха.

### ПАРЫЖ

— Паслухайце, афіцыянт, вы палічылі мне тры франкі за гарчыцу, а я яе амаль не браў!

— О, гэта памылка, мсье. Калі вы амаль не бралі, то гэта каштуе пяць франкаў. Тры франкі — гэта калі вы яе зусім не бралі.

### ХУТКІ РОСТ

Першыя дні пасля вяселля ён казаў ёй:

— Ягнятка ты маё дарагое!

I яна яму:

— Ягнятка ты маё мілае!

Калі ж прайшоў мядовы месяц, яна раптам зрабілася «аўцою падкаванаю», а ён — «бараном нявыхаваным...»

Як хутка яны выраслі!

### НАЧАЛЬНІК

— Хто тут начальнак — ты ці я?

Тут падышоў Кіндзюліс і заўважыў:

— Няўжо вы нават гэтага не ведаеце?

### ПРАПАНОВА

— Давай ніколі не будзем сварыцца! — прапанаваў муж жонцы.

— Ты што: ужо зноў напіўся?

### НА ШЧАСЦЕ

Званок. Дзверы адчыняе хлопчык і пытае:

— Вы да каго?

— Хацеў пабачыць твайго бацьку. Я наконт грошай...

— Бацька ўчора паехаў у камандзіроўку.

— Шкада. Я прынёс яму грошы, што некалі пазычаў.

— То заходзьце. На ваша шчасце, бацька вярнуўся сёння раніцай.

### НА ДАРОГАХ



*Прамахнуўся.*

## Курёзы

### МАЛАКО ШЭРАГА КІТА

Тлустасць добрага каровінага малака не перавышае 3—4 працэнтаў. Больш тлустае малако прынята называць смятанкай, і атрымліваць яе на малочным заводзе. Некаторыя дзікія жывёліны даюць гатовую смятанку. Напрыклад, малако антылопы гну мае тлустасць ад 7,3 да 10,1 працэнта, малако сланіхі — 9,3 працэнта. Але сапраўдную смятанку даюць самкі дэльфінаў — ад 18 да 32 працэнтаў тлустасці. І ўсё-такі рэкорд — за шэрым каліфарнійскім кітом — 53 працэнты.

### КУПЛЮ ВУЛКАН

Такая аб'ява была дадзена ў адной амерыканскай газеце Ф. Хірштэйнам, дырэктарам фірмы, якая займаецца гандлем пакаёвымі кветкамі. Знаходлівы камерсант выкарыстоўваў попел вулкана ў якасці ўгнаення для кветак, і попел быў яму неабходны ў вялікай колькасці. Хірштэйн атрымаў ужо некалькі прапаноў з Эквадора і Чылі, дзе ёсць «вакантныя кратэры». Слова за кветкаводам — які вулкан выбраць.

### АПОШНЯЯ ПРАВЕРКА

Свяшчэннік англійскага горада Гіэндлтон узяў за правіла ніколі не вянчаць маладажонаў да таго часу, пакуль нявеста не прыбярэ як след у царкве. «Вось тут і бачна, — гаворыць гэты свяшчэннік, — наколькі нявеста гатова да замужняга жыцця».

### ВУЧОНЫЯ ЖАРТУЮЦЬ

Доктар Юнін Бірд з прыродазнаўчага музея ў Вашынгтоне сцвярджае, што Амерыку адкрылі... слімакі. На яго думку, слімакі на бярвеннях і розных дошках з караблёў, што пацярпелі крушэнне, дабраліся да берагоў Амерыкі значна раней за вікінгаў і Калумба.




*Пра мёртвых гавораць толькі добрае... Дзякаваць Богу, нас яшчэ лаюць.*